*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 466 • Студзень 2000 г.
Год выд. 50

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A.

## БЕЛАРУСКІ ДОМ

Ужо колькі часу ў нашай грамадзе ідуць размовы аб патрэбе свайго будынку ў Мангатэне й неабходнасьці рашучых крокаў да гэтага зьдзьяйсьненьня. Каб было ня горш як ва ўкраінцаў, прынамсі. Дарэчы, раіў бы прыхільнікам праекту пацікавіцца ва ўкраінцаў, як менавіта набываўся той дом, колькі каштуе ягонае ўтрыманьне, якую ролю ў гэтым адыгрываюць бар і рэстарацыя, а таксама колькі гадоў яны зьбіраюць грошы на свой музэй. І гэта пра ўкраінцаў, чыя эміграцыя па ўсіх параметрах большая ад нашае: і сваім «стажам» у ЗША, і насельніцтвам, і фінансавымі магчымасьцямі. Не адмаўляючы, што ў прынцыпе было б файна мець свой дах недзе на Пятай, бліжэй да Парку, хочацца спыніцца на асобных момантах, што ня могуць не нараджаць пытаньняў, і часам даволі непрыемных.

Пачнем з таго, што чамусьці сама справа набыцьця (ці, хутчэй, збору сродкаў — адцемім вялікую розьніцу паміж гэтымі паняцьцямі) часткаю нашага грамадзтва лічыцца вырашанай і абмеркаваньню нават не падлягае. Бо, маўляў, была такая рэзалюцыя, прынятая на апошняй сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. На гэта трэба заўважыць, што й тады нямала было галасоў супраць прыняцьця рэзалюцыі, але галоўнае — як маглі беларусы з Чыкага й Кліўленду, Дэтройту й Таронта пастанаўляць, які дом і дзе набываць у Нью Ёрку? Гэта, не раўнуючы, як нам вырашаць, дзе будаваць цэрквы ў блізкім Кліўлендзе або далёкай Аўстраліі. Думаецца, беларусам Нью Ёрку варта ўзважыць — пакуль яшчэ ёсьць час — усе станоўчыя і адмоўныя бакі такой акцыі.

Што могуць кінуць на свае шалі прыхільнікі ідэі? Як на сёньня, найбольш чутныя наступныя аргумэнты: да будынку ў цэнтры будзе лягчэй даяжджаць, будзе больш народу зьбірацца на паседжаньні, узрасьце прэстыж беларускай грамады, можна будзе нарэшце пачаць сапраўдную стваральную працу.

Пачнем з прасьцейшага. Зараз вакол Фундацыі імя П. Крэчэўскага, як было некалі, зноў селяцца эмігранты новае хвалі. І ім, і людзям старэйшым, тым, хто набываў Фундацыю, будзе ехаць як раз далей. Прычым, калі — усе мы людзі багатыя, з машынамі! — зараз пытаньня паркоўкі фактычна ня існуе, у Мангатэне яно будзе надта ж адчувальным. Адным словам, тут колькі знойдзеш, столькі й прайграеш.

Такая самая сытуацыя й з павелічэньнем прысутных на сходах. Калі палымяны запал нацыянальнай ідэі залежыць ад поўгадзіны-гадзіны часу дарогі, бярэ сумніў, ці патрэбны носьбіт гэтага запалу самой Ідэе. Што ж да колькасьці прысутных — яе нельга параўнаць з пачаткам 1993 году, калі на сваё першае паседжаньне ў Фундацыі прыехаў аўтар гэтых радкоў і з маладзёнаў было два-тры чалавекі; здаецца, сходы зараз, на пачатку году 2000, набралі тую крытычную масу, калі колькасьць мусіць перайсьці адно ў якасьць, але якраз гэтага чамусьці не адбываецца. І вось тут што да суаднясеньня якасьці з колькасьцяй.

«Газэта «Беларус» як люстэрка нашае эміграцыі» — прыкладна так можна было б назваць далейшыя разважаньні. Газэта не выходзіла ад чэрвеня, аднавіўшыся на чатырох бачынах ажно ў лістападзе. Прычына простая: не было грошай. Эмігранты старэйшага пакаленьня, што на працягу свайго жыцьця складкамі ўтрымлівалі газэту, паступова адыходзяць. Маладзейшыя ж грошы практычна не ахвяруюць — ці то ашчаджаючы, ці то лічачы, што гэта ня іхная справа, (як, дарэчы, і астатнія культурніцкія праекты на эміграцыі), ці то не ўважаючы самую газэту за нешта патрэбнае. Так, газэце можна багата што закінуць, бо робіцца яна фактычна лічанымі асобамі, якія самі і пішуць матар'ялы, і вядуць ліставаньне, і рэдагуюць, і вычытваюць — усё у свой вольны час, хоць таксама маюць працу, сем'і, асабістыя справы, на, як кажуць, грамадзкіх пачатках (хто не знаёмы з такім выразам, патлумачу: задарма). За тыя гады, што маю дачыненьне да газэты, акрамя пустых закідаў, ня чуў аніводнае канкрэтнае прапановы з дапамогай: прыйсьці, вычытаць, выправіць памылкі, напісаць штосьці — адным словам, зрабіць газэту цікавейшай. Надта ж лёгка закідаць, нічога ня робячы: такія ніколі не памыляюцца.

Ажно, не, схлусіў — была адная прапанова: узяць платнага прафэсыйнага рэдактара. Ну, што сказаць? Калі няма грошай на самое выданьне, адкуль здабыць грошы на рэдактара?

Таму так насьцярожваюць заявы пра тую вялікую, агромністую беларускую працу, што нібыта пачнецца пад новым дахам. Ня верыцца ані заявам, ані самім прамоўцам. Што перашкаджае рабіць гэта зараз, сёньня, у тых умовах, якія маем? Ці прыстыжовасьці не хапае ва ўласных вачах?

Ідэя здабыцьця прэстыжу з набыцьцём будынку настолькі наіўная, што не падлягае нават крытыцы. Няўжо нехта сур'ёзна лічыць, што менавіта будынак у Мангатэне дасьць нам ключ да амэрыканскіх фінансавых фондаў, габінэтаў палітыкаў, уваход на тэлевізію й вечаровае «чаяпіцьце» з мэрам гораду?

Цяпер пра адмоўныя бакі. Дазволю сабе назваць толькі адзін, хоць ён далёка не адзіны. Сёньня мы маем Фундацыю. Можна багата наракаць на ейныя недахопы, кіравацца думкамі ў мінулае, калі нешта можна было зрабіць, але не было зьдзейсьнена, шукаць вінаватых; але галоўнае ў тым, што мы маем Фундацыю — месца зборак, сховішча архіваў і бібліятэкі, прытулак новых эмігрантаў, фінансавую дапамогу ці ня ўсім нашым праектам. Ці не атрымаецца, што для набыцьця дому ў Мангатэне трэба будзе спачатку прадаць Фундацыю, укласьці грошы ў банк, і чакаць — месяцы? гады? пакаленьні? — пакуль не назьбіраецца патрэбная сума? Ды й ці назьбіраецца яна калі? Ці не атрымаецца так, што, згубіўшы штосьці рэальнае, мы атрымаем міт?

Здаецца, ёсьць пра што падумаць, пагаварыць, магчыма — паспрачацца. Але — паважаючы адзін аднаго, не пераводзячы размову словамі ў змаганьне крыкамі, як адбылося на адным з апошніх паседжаньняў у Фундацыі. Бо мы ня ворагі адзін аднаму. Вораг у нас іншы — той, хто за прыгожымі словамі беларускае ідэі хавае абсалютова іншыя ўласныя амбіцыі й памкненьні.

**Лявон Юрэвіч**

*Ад Рэдакцыі. Улічваючы важнасьць узьнятаи праблемы, запрашаем чытачоў да дыскусіі.*

## БЕЛАРУСКАЯ СПАДЧЫНА Ў ЧЫКАГА



*Сп-ня Лын Раэн, жонка губэрнатара штату Ілінoй зь дзецьмі (зьлева Юлія Гэрцан, а справа Ліндзі Андэрсан) у беларускіх строях.*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## Я МАЮ ДУМКУ

### МУЗЭЙ ЭМІГРАЦЫІ? А ЧАМУ НЕ!

Не палохайся, шаноўны чытач: мая прапанова ня мае анічога агульнага з глябальнымі праектамі сучаснасьці, зь вялікімі грашовымі зборамі. І разам з тым — так, гутарка пойдзе менавіта пра музэй, калі больш дакладна — музэй-лябараторыю гісторыі беларускае эміграцыі.

Эмігранты старэйшага пакаленьня за гады, праведзеныя на чужыне, сабралі агромністы матар'ял, які часта пачынае выжываць самога гаспадара з хаты: карціны, мастацкія вырабы, адзеньне, шматлікія дакументы, фотаздымкі, часапісы й кнігі, лісты. Зразумела, ня ўсё мае для гаспадара аднольковую вартасьць, але разуменьне гістарычнай важкасьці сабранага не дазваляе пазбавіцца ад рэчаў. Вось і падумалася: можна было б сабраць гэтыя рэчы й зрабіць — спачатку невялікую выставу, а потым — вялікую, каб пазьней, сабраўшы, зарганізаваць, апісаць ды выставіць матар'ялы Гісторыі нашае эміграцыі.

Прычым, гэта быў бы ня толькі музэй, але й лябараторыя для дасьледчыкаў эміграцыі, якія часта зьвяртаюцца да нас зь Беларусі, Польшчы ў пошуках патрэбных матар'ялаў.

А дзе, спытаецеся вы, дзе здабыць тое памешканьне, дзе можна было б усё гэта ўладкаваць? Вядома, на добры лад — асобны будынак ці хоць бы пакой-другі задаволіў патрэбы. Але давайце будзем рэалістамі й паядднаем сапраўды вартасную справу з нашымі рэальнымі магчымасьцямі. Памешканьнем, асабліва на пачатку, можа стацца заля ў адной з нашых цэркваў. Да таго ж плянуемая экспазыцыя можа перасоўвацца, пераяжджаць з аднаго будынку ў другі, упрыгожваць нашыя імпрэзы, акадэміі, фэстывалі.

Цалкам рэальна першую такую выставу зрабіць на 25 Сакавіка. Што думаеце, спадарства? **В.К.**

*Ад Рэдакцыі. Нам падалося, што прапанова слушная, цікавая, якая можа стацца прыкладам і для нашых суродзічаў у Канадзе, Аўстраліі, Францыі, Англіі. Тым, хто хацеў бы дапамагчы ў стварэньні такого музэя-лябараторыі матар'яламі або сваім непасрэдным удзелам, падаем кантактныя тэлефоны:*
*1-718-658-6760. Валя Якімовіч*
*1-516-627-6491. Ала Орса-Романо*
*1-718-645-9436 Лявон Юрэвіч*

### ПАДАРУНКІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ — АД БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

У 20-х днёх сьнежня вучні колькіх беларускамоўных клясаў менскай школы №37 і Сеньнінскай школы (прадмесьце Менску) атрымалі калядныя падарункі. Акцыя праводзілася пад эгідаю Таварыства Беларускае Мовы й новастворанага Бацькоўскага камітэту вучняў беларускамоўных садоў, клясаў й школаў (пра Бацькоўскі Камітэт «Беларус» пісаў у папярэднім нумары).

Падарункі былі набытыя й перасланыя сям'ёю беларусаў з ЗША — спадарствам Зораю й Вітаўтам Кіпелямі, якія вырашылі такім чынам падзяліцца радасьцю Божага Нараджэньня з дзецьмі, якія навучаюцца ў беларускай мове, і праз гэты чын выказаць сваю падтрымку беларушчыне на Бацькаўшчыне.

**Дамінік Лось**

Заклікаем усіх суродзічаў у Вольным Сьвеце!
Далучайцеся да акцыі падтрымкі дзяцей,
якія навучаюцца ў беларускай мове,
і настаўнікаў,
якія выкладаюць па-беларуску!
Вы яшчэ можаце пасьпець зрабіць ім падарункі
на 25 Сакавіка!
Зьвязвайцеся па тэл.

**1-732-557-00-94**

## ГІСТОРЫЯ

**Ул. Гарэлік (Чыкага)**

### УСПАМІНЫ ПРА АРЫШТ КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ ВЯСНОЙ 1944 г.

Вясной 1944 года старшы праваднік Васіль Цыкуноў быў камандантам лягера СБМ у Альбертыне, дзе вышкаліваліся малодшыя кіраўнікі моладзі. У гэты час яго памочнікам быў В. Брэль — малодшы праваднік. У нядзелю, як пасьля расказваў зьвязовы Смурговіч, Цыкуноў паставіў его глядзець за лягерным парадкам, а сам із Брэлям пайшоў у Слонім. Ніхто зь іх не павярнуўся ў Альбертын. Брэля знайшлі застрэлянага ў адкосе жалезнай дарогі, а за пару тыдняў у кіраўнічы штаб ў Менск была перададзена невялікага памеру прыгожа тэхнічна надрукаваная ўлётка за подпісам Цыкунова. У ёй ён заклікаў усіх сяброў СБМ ісьці ў партызаны, пагражаючы непаслухмяных «перадушыць, як кот мышэй». Пасьля гэтага із дому моладзі ў Менску пайшоў у партызаны 16-гадовы энэргічны юнак Пікулік.

У Доме СБМ працавала свая сталоўка, якая абслугоўвала штатны пэрсонал кіраўнікоў моладзі й некалькі асобаў немцаў, якія служылі ў Гэбітскамісарыяце пры Аддзеле моладзі наначале з обэрбанфурэрам Гэрманам Шульцам. Немцы й беларусы сталаваліся з адной кухні, але елі паасобна ў двух невялікіх суседніх пакоях. У сталоўцы толькі сьнедалі й вячэралі, а на абед атрымоўвалі харчовыя карткі. Жылі ўпрогаладзь.

Аднаго разу я недзе на кароткі час затрымаўся ды сьпяшаўся, каб не застацца без вячэры. Запыхаўшыся ад хуткай хады, адчыніў дзьверы ў залю, праз якую павінен быў прайсьці да сталовага пакою. У залі я нечакана пабачыў 8 ці 10 службоўцаў СД. Я прывітаўся па-юнацку. У адказ двое мяне падхапілі за рукі, паставілі тварам да сьцяны, праверылі ўсе кішэні, у якіх нічога падазронага не знайшлі. За сталом ужо былі ўсе ў зборы, за выключэньнем мяне й Швэдэнкі — бухгальтара СБМ. На гэты раз вячэраць нам не давялося. Доўга не чакаючы на Швэдэнку — ён рэдка калі прыходзіў на вячэру — нас усіх вывялі і пасадзілі па двух у адкрытыя кузавы грузавікоў пад аховай двух аўтаматчыкаў на машыну, здаецца, латышоў.

Мяне везьлі з Ф. Каплуновым, заступнікам кіраўніка моладзі Менскай акругі праваднікa Сяргея Бузака. Каплуноў быў па натуры тэмпэрамэнтным — нэрваваўся, шапнуў мне: «Прыгаем з машыны ды ўцякаем у разпалыя дамоў». Я яго ўстрымаў — пад абстрэлам аўтаматчыкаў абсалютна непазьбежна сьмерць.

Даехалі да кватэры Цэнтральнага СД, якое раскватаравалася ў блёках былўшага мэдыцынскага інстытута недалёка ад Дома Ўрада. У калідоры на другім паверсе нас усіх — мяне, Д. Стэльмаха, А. Кароткага, Я. Асіпчыка, С. Бузака, Ф. Каплунова, Я. Шнітку — паставілі тварам да сьцяны з паднятымі рукамі. Бралі па чарзе кожнага на кароткі допыт, а пасьля допытаў усіх адвялі ў невялікі пакой у падвале. Там быў дужа слабы сьвет, але можна было пабачыць, што кінулі нас у камэру для расстрэлаў: на падлозе ляжалі мятровыя плахі дрэва, сама падлога была ліпкай, а на сьценах былі розных памераў выбоіны ад куляў. У камэры была мёртвая цішыня, якую парушалі часам пацукі; я ня чуў, каб нехта абмовіўся хоць ціхім словам. Усе паселі каля сьцен на падлозе. Я прылёг, паклаўшы пад галаву плашку дрэва, і пачаў драмаць, як адчуў на твары вострыя кіпцюры пацука, які заўчасна сьпяшаў на вячэру. Пасьля гэтага ўсю ноч сядзеў каля сьцяны.

Гэтай-жа ноччу агэнты-латышы даведаліся, дзе кватараваў Швыдэнка: ён кватараваў разам з сваім сябрам Уладзімерам Беланоўскім. Адтуль яго й даставілі ў камэру, дзе сядзелі мы. У чым абвінавачвалі Швэдэнку, мы даведаліся пазьней. Казалі, што ён нападпітку паказаў Лідзіі Аляксееўне — старшай паварысе у доме моладзі, дзе мы сталаваліся — невялічкую бутэлечку з атрутай, якой разьлічвалася забіць пры атраве стравы ў катле больш за 250 чалавек. Думалі, што Лідзія пра гэта данесла ў СД, і менавіта гэта паслужыла прычынай арышту ўсяго штабу СБМ.

Пасьля таго, як закончылі допыты Швэдэнкі, усіх нас вывялі з падвала, накармілі бутэрбродамі з салтысонам і строга загадалі, каб ніхто з нас нідзе аніводным словам не абмовіўся пра арышт штаба. Што сталася з Швэдэнкам — ніхто з нас не даведаўся. Яго не адпусьцілі, хоць і не знайшлі пры вобыску нічога падазронага. Ягоную юнацкую форму СД пераслала ў штаб СБМ. М. Ганько казаў, што яго не пакаралі сьмерцю, а вывезьлі на будову «атлянтычнага вала» ў Нармандыю.

Калі я ў Нямеччыне пасьля капітуляцыі сустрэўся ў горадзе Бустраў з Каплуновым, то ён мне казаў, што Швэдэнка меў сувязь з партызанскім атрадам Мармулёва, які дыслацыраваўся ў раёне Ўзды. Ён нешта ведаў больш, але не сказаў. Каплуноў адразу па вайне эвакуяваўся з паваротам на ўсход з жонкаю й дзіцём, якое нарадзілася ў Бустраў. Ягоная жонка Лёля была дачкой палкоўніка дзеючай Чырвонай арміі, а цешча — доктарам у партызанах. Лёля з партызанаў зімою перабралася ў Менск, дзе й спаткала Фёдара, і за пару тыдняў яны пажаніліся. Пасьля Фёдар яе ўлаштаваў сакратаркаю Васіленкі, які працаваў у БЦР як вайскавік па арганізацыі Беларускай Краёвай Абароны.

Кіраўнічы штаб СБМ выдаваў свой месячнік «Жыве Беларусь». На вокладцы разьвіваўся бел-чырвона-белы сьцяг, на фоне якога былі прыгожа намалёваны з натуры юнак і юначка ў нацыянальных кашулях. Матар'ял у месячнік — асабліва перадавіцы —

*(Працяг на 4 бач.)*



*На здымку: Барыс Рагуля й Пётра Сыч*

# ПЁТРА СЫЧ

Невытлумачальны як на тое ўчынак: укладальнік менскіх анталёгій эміграцыйнай літаратуры, «Туга па Радзіме» ды «А часу больш, чым вечнасьць», пісьменьнік Барыс Сачанка надзвычай плённа скарыстаў мюнхенскі альманах «Ля чужых берагоў», дадаўшы асобныя творы, уключыўшы асобных паэтаў, але выкінуўшы пры гэтым — зь 2-х кніжных падборак — адно-адзінае імя: паэта й празаіка Пётру Сыча.

Пэўна, даверваючы густу й ведам галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя», якім на той час з'яўляўся Б. Сачанка, абмінулі імя й складальнікі даведніка «Беларускія пісьменьнікі».

Мы ўсё ж возьмем на сябе сьмеласьць занатаваць біяграфію гэтага пісьменьніка, дадаўшы да гісторыі нашае літаратуры яшчэ адну бачынку.

Альфрэд Пётра Сыч нарадзіўся 18 студзеня 1912 г. у сям'і Мар'яна й Марыі з Шакураў у Батурына Хоценскай воласьці. Ахрышчаны ў мястэчку Ільля Вялейскага павету. Хроснымі бацькамі былі Адам Паўлюкевіч і Стэфанія з Барысевічаў Мордас. Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, а сямiклясную — у Хаценчыцах.

У 1929 годзе запісаўся ў Віленскі унівэрсітэт на аддзяленьне філязофіі, аднак пасьля двух год быў змушаны пакінуць навучаньне з прычыны хваробы маці, тады ўжо ўдавы. Ад гэтага часу, працуючы на гаспадарцы, стаўся супрацоўнікам віленскіх польскамоўных газэтаў.

Аднагчасова з публіцыстыкай П. Сыч распачаў і пісьменьніцкую дзейнасьць. Першы верш — у польскай мове — быў надрукаваны ў 1932 годзе ў віленскай газэце «Голас Люду». І пад артыкуламі, і пад мастацкімі творамі спачатку падпісваўся псэўдонімам Петрэк Вілейскі, а пазьней — крыптонімам *пс* або сваім сапраўдным прозьвішчам. Блізка быў знаёмы з С. Рак-Міхайлоўскім, Б. Тарашкевічам.

У 1939 годзе П. Сыч быў мабілізаваны ў польскую армію й крыху пазьней палонены бальшавікамі ў Ашмянах. Аднак з палону пашчасьціла ўцячы.

З кастрычніка таго-ж малашчасьлівага для П. Сыча году ён быў зноў арыштаваны й пасаджаны ў Вялейскую турму. У чэрвені 1940 г. яго перавезьлі ў турму ў Полацак, дзе без суду зачыталі прысуд: 58 параграф, 10 гадоў лягероў. Напэўна, асноўнай віною сталіся антыкамуністычныя артыкулы ў прэсе.

Амаль адразу па прысуду П. Сыч быў вывезены ў Комі, у Севжэльдорлаг, дзе й знаходзіўся да канца верасьня 1941 г., адкуль, на падставе дамовы Сікорскі-Майскі як польскі грамадзянін быў перакінуты спачатку ў Надволжа, а пазьней у Самарканд, дзе ствравалася польская армія. Адтуль праз Пэрсыю, Ірак, Сырыю, Лібан, Палестыну, Эгіпет — у лютым 1944 г. П. Сыч разам з корпусам Андэрса, у раньзе паручніка быў перакінуты на фронт у Італію, дзе браў удзел у баёх пад Монтэ Касыно, Анконай й Балёніяй. Быў чатыры разы паранены.

Пасьля заканчэньня вайны корпус Андэрса быў перавезены ў Англію. П. Сыч прыбыў туды ў ліпені 1946 г. і адразу далучыўся да беларускай грамадзкай працы. У 1951 г. пераехаў у Нямеччыну, дзе рэдагаваў сатырычны часапіс «Шарсьцень», супрацоўнічаў з газэтаю «Бацькаўшчына», часапісам «Камбатанцкі Голас». Адным з першых, ад 1954 г. стаўся супрацоўнікам «Радыё «Вызваленьне» (Свабода)».

Памёр Пётра Сыч 20 чэрвеня 1964 года. На паховінах прамаўлялі біскуп Ч. Сіповіч і прэзыдэнт М. Абрамчык.

Творы П. Сыча друкаваліся ў згаданым альманаху «Ля чужых берагоў», на балонках газэты »Бацькаўшчына». У 1965 годзе ягоная ўдава выдала кнігу ўспамінаў «Сьмерць і салаўі». У Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане захоўваецца ягоны нататнік зь вершамі й скэтчамі.

**Л. Юрэвіч**

## З БОГАМ ПА-БЕЛАРУСКУ

*З Богам — па-беларуску. Так будзе называцца нашая новая рубрыка, для якой пішуць студэнты-тэёлягі, што студыююць у Лёндане й жывуць у Беларускай Місыі. У іхных зацікаўленьнях паяднаалася любоў да Бога й любоў беларускага слова. І плён, які можа даць гэтая любоў, адна з праяваў — у Анталёгіі, першай такога роду для нас, жыцьцё якой пачынаецца на бачынах нашае газэты.*

*Рэдакцыя*

Першы зборнік Ніны Мацяш выйшаў ў 1970 г. Ейная паэзія — лірычная, глыбока пачуцьцёвая, багатая на роздум унутранага сьвету паэткі. Н. Мацяш таксама перакладае паэзію і прозу з французскае, нямецкае, польскае ды ўкраінскае моваў.

Гэты верш зьявіўся ў зборніку «Ральля суровая» ў 1976 г. — у часы, калі ў выдавецтвах з твораў пісьменьнікаў старанна выкрэсьліваліся любыя праявы рэлігійнасьці. Хіба першы радок уратаваў верш ад цэнзуры. Ягонае пытаньне-сумнеў становіцца пачаткам пакорнае малітвы, што ўзрастае ў цішыні роздуму шляхоў дачасных.

Мудрацы ўсходу прыйшлі ў Ерусалім, ведзеныя зоркай, каб пакланіцца народжанаму Збавіцелю, гісторыю пра што апісвае ў Евангельлі апостал Мацьвей.

*Калі б на сьвеце меўся Бог,*
*Усьлед за мудрацамі Ўсходу я*
*Такой малітваю яго маліла б:*

*— О, Божа, дай мне сілы не зьмяняць*
*Таго, чаго зьмяніць не ў сіле я;*

*— І дай мне мужнасьці зрабіць усё,*
*Што я ў жыцьці маім зрабіць павінна;*

*— І дай мне мудрасьці, каб разьлічыць,*
*Што — не пад сілу мне, а што — мой*
*абавязак...*

Успамін перажытага становіцца глыбокім подыхам надзеі, калі сэрца прадчуе Існасьць. Тайніца гэтае Існасьці прыадкрывецца на момант, каб захапіць нас прагненьнем глыбейшага яе спасьціжэньня. Прагненьне і сумненьне нараджаюць памкненьне веры, асэнсаванай і жывой. Гэтак жа Ягвэ прамаўляў Ізраілю праз падзеі ягонае гісторыі і пракрокаў. Верш апублікаваны ў зборніку «Шчасьлівай долю назаві...» (1990).

*Я ўсё жыцьцё сваё Цябе шукала,*
*Гадамі йшла праз морак і праз боль,*
*Як быццам верыла, як быццам знала,*
*Што немінуча стрэнуся з Табой.*

*Аж дзіўна, скуль было той веры*
*браца*
*Пры ўсведамленьні: рады тут няма...*
*Ды нешта ўсё загадвала: трымацца!*
*Ды нешта цьвердзіла ўсё: недарма!*

*Я акіян тугі правеславала,*
*Я тысячу пустынь перабрыла*
*І тысячу надзей там пахавала.*
*І вось — знайшла... Я ўсё ж Цябе*
*знайшла?!*

*О, толькі не пакінь, не адступіся!*
*Пазнай мяне, прызнай, не абміні!*
*Цяпер Ты ўсё мне: і мой дол, і высі, —*
*Вясёлку сьвету белага вярні!*

*Падломваюцца ад дарог калені,*
*Вось-вось лісточкам сэрца абляціць, —*
*Не адвярніся!..*
*Больш з такім маленьнем*
*Ужо няма мне да каго ісьці.*

**К. Акула**

# КАРЫСНАЯ КНІГА

Кніга «Жыцьцё пад агнём» Лявона Юрэвіча, выданьне часапісу "ARCHE" ў Менску — цікава напісаны «Партрэт беларускага ваеначальніка й палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне эпохі» павінна здабыць шмат чытачоў між нашых суродзічаў.

Калі-ж, як кажа Юрэвіч, гэта «кніга — не гістарычнае дасьледаваньне», адно «гістарычныя падзеі», а «крыніца інфармацыі» — сам чалавек, імя якога Барыс Рагуля», паўстае пытаньне: ці гэта прыватныя ўспаміны, ці нешта іншае?

На працягу гадоў нашага навагрудзкага суродзіча «роднапартыйныя» цівуны былі заавансавалі ў самага галоўнага злычынцу, абляпілі і ўдэкаравалі такімі жахлівымі прыўкрасамі і чынамі, што проста немагчыма было-б абараніцца. Калі-ж бы прыладай абароны выбраць прыватныя ўспаміны? Аўтары такіх успамінаў часта на помач клічуць прафанацыю, фанабэрыю, хлусьню, глёрыфікацыю самiх сябе.

Такога хламу ў Рагулявых расказах Юрэвічу няма. Затое там, як у прадмове заўважыў рэдактар Валеры Булгакаў, — «напамін аб нечым большым: што такія чалавечыя якасьці й пачуцьці, як дабрыня, спагада, узаемавыручка, зычлівасьць, не падуладныя нават самым жудасным выпрабаваньням.»

Прызнаюся, вельмі цяжка мне было чытаць Рагулева апавяданьне, як ён, уцёкшы зь нямецкага палону ў «вызваленую» Масквой Беларусь, пакутаваў у катоўнях кагэбістаў, хварэў, змарнеў фізычна, але не падпісаў нічога прапанаванага, як «шпіён» засланы сюды «Сталінавым саюзьнікам з Бэрліну» і што ня толькі ён, але й радня залічаная ў злачынцы. Наперадзе — сьмерць-расстрэл. Найбольш ухвяліла яго пагроза, што й матку ягоную, найдаражэйшую ў сьвеце асобу, натхненьне ягонае, сілу, арыштуюць і зьліквідуюць!

Цікавая гісторыя арганізацыі і дзейнасьці Беларускага Навагрудзкага Эскадрону. Раскрываецца шырэйшая панарама жыцьця, дысцыпліны, пляняваньня групы адданых ідэі дзяржаўнага будаўніцтва беларускіх патрыётаў.

Адкуль-жа крыніцы іх сілы? Вядома-ж — ад Бога й сям'і. Гэтага было-б, калі-б яно гэтым абмежавалася, замала. Прыгадаем, што беларуская Навагрудчына доўгія гады змагалася за беларускамоўныя школы пад польскай акупацыяй. Як маскалі ў бээсэсэрыі, так палякі ў Заходняй Беларусі намага-

(Працяг на 4 бач.)

## АНТОН АДАМОВІЧ. ТВОРЫ

Як мы пісалі ў адным з папярэдніх нумароў, у БІНІМе рыхтуецца чарговы, адзінаццаты том сэрыі «Пісьменьнікі эміграцыі». Ім мусяць стацца «Творы» Антона Адамовіча. Разам з абвесткаю была надрукаваная просьба-зварот да чытачоў — дапамагчы ў зборы матар'ялаў.

І вось першы водгук: доктар Янка Запруднік, даўні калега й сябра, а ў нечым — і вучань Ан. Адамовіча, перадаў надзвычай каштоўныя дакуманты: рэдкія здымкі пісьменьнікаў 20х гадоў (А. Дудара, Н. Вішнеўскай), эміграцыі (Ул. Дудзіцкага. Хв. Ільляшэвіча, Ю. Віцьбіча), запісныя кніжкі, дакуманты, дыплёмы самога Ан. Адамовіча, шматлікія артыкулы, накіды, запісныя кніжкі. Вялікі дзякую Вам, спадар Янка!

Нагадваем, што ўкладальнік «Твораў» будзе ўдзячны за любыя матар'ялы (рукапісы, згадкі, фотаздымкі), за ўсё, што дапаможа ўзбагаціць кнігу, выхад якой плянуецца на канец 2000 году.

Liavon Yurevich
204 Avenue N
Brooklyn, NY 11230
Tel. 1-718-645-9436
Fax. 1-718-375-7052
E-mail: lyurevich@nypl.org

# БУДЗЬМА РАЗАМ!

1999 г. быў вельмі важкім і складаным для Архіву Найноўшай Гісторыі. Дырэктар Архіву Алег Дзярновіч быў зьмешчаны з гэтае пасады. Гіронія лёсу: мэдыявіст паводле адукацы курыраваў найноўшую гісторыю! Многае з намечанага не было дасягнута.

Зьмена кіраўніцтва, здаецца, павінна была б пацягнуць за сабой пэўныя праблемы ва ўзаемаадносінах з партнэрамі. Аднак за гады існаваньня Архіву ў ім стварыўся невялікі, але працаздольны калектыў, які здолеў у цяжкі час прыняць на сябе асноўны цяжар адказнасьці й клопат: за існаваньне арганізацыі, захаваньне фондаў, якія ёсьць на сёньняшні момант ужо нацыянальным здабыткам, за працу над распачатымі праектамі. Каб не спыняць пачатую працу, супрацоўнікі Архіву фармальна распусьцілі былы Архіў і на ягоным мейсцы стварылі грамадзкае аб'яднаньне пад назвай *Архіў Найноўшай Гісторыі*.

Заснавальнікі грамадзкага аб'яднаньня бачаць Архіў адкрытай і самастойнай грамадзкай структурай, якая не павінна адпавядаць чыймсьці прыватным ці палітычным інтарэсам.

Асноўная мэта АНГ — стварэньне агульнанацыянальнага фонду інфармацыі, зьвязанай зь гісторыяй беларускага грамадзтва 20 стагодзьдзя, пачынаючы ад змагароў за незалежнасьць Беларусі пачатку стагодзьдзя і сканчаючы сёньняшнім часам.

Мы, супрацоўнікі Архіву, важнае мейсца адводзім праблеме Другой Сусьветнай вайны ў лёсе беларускага народа. Нягледзячы на лібералізацыю беларускага грамадзтва ў пачатку 90-х гг., так і не перагледжаны на Беларусі погляд на падзеі апошняй вайны. Чорнымі фарбамі да гэтай пары (а з 1994 г. асабліва) малююцца ў нас тыя, хто ў 1941-1944 гг. апынуўся па іншы бок барыкадаў. Архіў бярэ на сябе адказнасьць па збору інфармацыі, матар'ялаў і дакумантаў, што рабілася ў нас на Беларусі падчас апошняй вайны. Неабходна мець зборы ўспамінаў удзельнікаў тых падзеяў, хто воляю лёсу ці сьвядома апынуўся па несавецкі бок барыкадаў. Стварыць сапраўдную гісторыю апошняй вайны — адна з галоўных мэтаў Архіву.

Фонды АНГ мусяць быць функцыянальнымі і як мага больш адкрытымі для карыстаньня. Ня толькі збор, але й трансьляцыя інфармацыі для досыць шырокіх колаў набываюць асаблівую важнасьць у дзейнасьці архіву на новым этапе.

Шырокі рух грамадзкай падтрымкі й садзейнічаньня Архіву можа стаць, на нашую думку, важным фактарам для разьвіцьця Арганізацыі і папаўненьня ейных фондаў. Шэраг ініцыятываў — як конкурсы, выставы, публікацыі — павінны стварыць для гэтага руху грамадзкую базу і дапамагчы інфармаваньню пра дзейнасьць Архіву. Далейшае існаваньне Архіву немагчымае таксама без актыўнага супрацоўнічаньня з усімі зацікаўленымі асобамі і інстытуцыямі, у першую чаргу з тымі, што працуюць у галінах гісторыі, культуры, адукацыі. Мы бачым неабходнасьць далей разьвіваць шчыльныя сувязі з рэгіянальнымі арганізацыямі Трэцяга Сэктару, а таксама з замежнымі партнэрамі, такімі як KARTA (Польшча), Мемориал (Россия).

Як грамадзкая арганізацыя АНГ мае адпаведную структуру, якая будуецца па гарызантальным прынцыпе. Адмыслова была выключаная магчымасьць аўтарытарнага кіраваньня. Найвышэйшым органам Аб'яднаньня зьяўляецца агульны сход сяброў АНГ, які склікаецца адзін раз на год, мае права прымаць рашэньні па ўсіх пытаньнях дзейнасьці АНГ, выбірае Старшыню, Выканаўчую Раду і Рэвізора.

Выканаўчая Рада, якая складаецца з 4 чалавекаў, выбіраецца Агульным сходам для апэратыўнага кіраваньня справамі Архіву. Кіраўніцтва бягучымі справамі ажыцьцяўляецца Старшынём АНГ (сёньня гэтую пасаду займае Ларыса Андросік), які абіраецца на 4 гады агульным сходам.

З мэтамі пашырэньня грамадзкай базы Архіву, павышэньня навуковага ўзроўню працы па ініцыятыве заснавальнікаў Архіву была створаная *Грамадзка-Навуковая Рада*, у якую увайшлі гісторыкі, праваабаронцы, літаратары, журналісты, якія зацікаўленыя ў дзейнасьці Архіву, у супрацы зь ім, у супольным пошуку новых формаў і мэтадаў працы. Грамадзка-Навуковая Рада Архіву мае кансультатыўна-кантрольны характар. У яе функцыі мусяць уваходзіцьназіраньне за навуковым узроўнем прапанаваных і выкананых праектаў Архіву, распрацоўка новых накірункаў дзейнасьці, падтрымка сувязяў з навуковымі і грамадзкімі асяродкамі. У той жа час Грамадзка-Навуковая Рада можа азнаёміцца са справаздачамі па тым ці іншым праекце. Дзейнасьць сяброў Рады будуецца на грамадзкай й дабраахвотнай аснове. Сябрамі Рады могуць быць грамадзяне любой краіны, для гэтага ім не абавязкова быць сябрам грамадзкага аб'яднаньня. У той жа час любы з заснавальнікаў ці сябраў АНГ мае права прыняць удзел у паседжаньнях Грамадзка-Навуковай Рады. Дзеля ажыцьцяўленьня рэгулярных кантактаў Грамадзка-Навуковай Рады з Архівам сябры Рады могуць абраць сабе старшыню. Адказныя рашэньні Рады могуць быць прынятыя шляхам збору подпісаў большасьці сяброў.

Грамадзкая Рада Архіву: Андрусь Абламейка, Уладзімер Арлоў, Валерка Булгакаў, Алесь Бяляцкі, Зьбігнеў Глюза, Сяргей Дубавец, Сяргей Ёрш, Янка Жучка, Янка Запруднік, Павал Казанецкі, Міхал Казлоўскі, Вольга Караткевіч, Алесь Каўка, Алесь Краўцэвіч, Міхал Кукабака, Яўген Кулік, Ігар Кузьняцоў, Алег Латышонак, айцец Аляксандар Надсан, Генадзь Сагановіч, Анатоль Сідарэвіч, Віталь Скалабан, Ніна Стужынская, Захар Шыбека, Міхась Чарняўскі, Лявон Юрэвіч.

Напрыканцы 1999 г. адбыўся сход супрацоўнікаў Архіву, на якім былі вызначаныя наступныя накірункі дзейнасьці (ці праекты) аб'яднаньня на 2000 г.:

- Праект збору прыватных і грамадзкіх архіваў.
- Капіяваньне фондаў для партнэрскіх арганізацыяў.
- Праект «Жывая Гісторыя» (ці Orale History) — збор мэмуараў, аўдыё і відэа запісаў з аповядамі сьведкаў гісторыі.
- Падрыхтоўка і выданьне кніг Архіўнай сэрыі.
- Праект стварэньня агульнанацыянальнага Індэксу Рэпрэсаваных з публікацыяў матэрыялаў.
- Падрыхтоўка першага нумару беларускага архіўнага часапіса.
- Праект стварэньня фонду Беларускай Вайскавой Гісторыі 20 стагодзьдзя.
- Падрыхтоўка Другога Агульнанацыянальнага Конкурсу для Школьнікаў па Гісторыі XX стагодзьдзя на 20001 год.

На сёньняшні дзень у Беларусі знаходзіцца шмат збораў дакумантаў, візуальных і аўдыёматар'ялаў, якія былі сфармаваныя ў працэсе дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў, што паўсталі пасьля сярэдзіны 80-х, а таксама прыватных збораў, якія былі сабраныя ўдзельнікамі такіх арганізацыяў і рухаў і сягаюць часам на дзесяткі гадоў у мінулае. Апроч гэтага яшчэ захаваліся шматлікія сямейныя архівы. Усе гэтыя зборы складаюць корпус крыніцаў нашай сучаснай гісторыі, крыніцаў, якія практычна застаюцца па-за межамі зацікаўленасьці дзяржаўных архіваў і паступова зьнікаюць праз нядбайнасьць захаваньня альбо зьмену гаспадароў. АНГ бачыць як адну з сваіх задачаў — адшукаць і захаваць такія калекцыі, а таксама, пазмагчымасьці, спрыяць публікацыі матар'ялаў зь іх.

Супрацоўнікі Архіву Найноўшай Гісторыі запрашаюць суайчыньнікаў за мяжой да супрацоўніцтва і працы на карысьць вольнай Беларусі. Будзьма разам!

**По даручэньні супрацоўнікаў Архіву Алег Гардзіенка**

## Карысная кніга

*(Працяг з бач. 3)*

лісяя ліквідаваць беларускую мову ў асьвеце, культуры, творчасьці, не гаворачы ўжо пра ўдзел беларускамоўнай эліты ў гаспадарцы ці акупацыйных чужых апаратах.

Таму й ліквідавалі мову. А ў мове ёсьць адна, галоўная крыніца беларускай дзяржаўнасьці, яна-ж лягла ў аснову БНР у 1918 годзе.

Сяньня беларуская мова вынішчваецца, хоць яна мае статус дзяржаўнай, у Рэспубліцы Беларусь.

Тут, у замежных дэмакратычных краінах, расьце колькасна грамада людзей з Рэспублікі Беларусь; яны ў сваіх сем'ях пераважна карыстаюцца мовай расейскай. Варта ім прыгадаць ня толькі кліч Францішка Багушэвіча, але — калі хто зь іх сумняваецца пра сілу й прыгажосьць беларускай мовы, — Адама Міцкевіча, што сказаў ён пра яе ў Парыжы.

Абавязкова-ж не забыцца й пра нашу геніяльную Натальлю Арсеньневу, адкуль яна паходзіла й якой мовай ды што тварыла. Яна-ж таксама некалі за беларускасьць пакутавала, а пасьля тварыла й жыла між нам — выгнаньнікаў!

Выдавецтву кнігі «Жыцьцё пад агнём», аўтару Лявону Юрэвічу, а перадусім Барысу Рагулю, — ад нас усіх вялікая падзяка за ахвярнасьць, дабрачыннасьць, помач і доўгадавае плённае супрацоўніцтва.

## МЕНСК

### КРЫШНАІТЫ ЯК ФАКТАР ДЭСТРУКЦЫІ

Для сёньняшняй афіцыйнай прапаганды паняткі «рэлігійная талерантнасьць», «аддзеленасьць царквы ад дзяржавы» перасталі існаваць. Да прыкладу, экзарх РПЦ Філарэт, ужо не камуфлюючыся ў выраз «Беларуская Царква», называе праваслаўе на Беларусі расейскай царквой, а прыхаджанаў — расейцамі, «русскімі людзьмі».

Адзін з найбольш давераных службоўцаў Лукашэнкі — Канаплёў — называе Беларусь «праваслаўнай рэспублікай», а прадстаўнік Дзяржаўнага Камітэту па Рэлігіі ў радыёперадачы 6 сьнежня проста заявіў, што крышнаіты (зь імі не змагаюцца нідзе ў сьвеце) зьяўляюцца «дэструктыўнаю сэктай».

## УСПАМІНЫ...

*(Працяг з бач. 2)*

пісаў сам Міхась Ганько. Часта з вастрынёй ім выказаны пагляды я не згаджаўся. Я апрацоўваў аддзел хронікі СБМ, пісаў выхаваўчыя артыкулы, пра гісторыю Менску, памясьціў на балонцы часапіса мной зроблены плян горада. Маім абавязкам было аднасіць у друк апрацаваны чарговы нумар месячніка, а пасьля забіраць яго й разсылаць па бібліятэках.

Перад нямінучай эміграцыяй юнаку Катковічу даручылі вялікую скрыню архіўных матар'ялаў, якую ён давёз цягніком да Вілейкі, дзе разам зь ёй пайшоў у партызаны, як пасьля перказаў П. Сьценьнік. Другую невялікую скрынку з важнейшымі архівамі я завёз у Нямеччыну, дзе здаў на пераахаваньне ў невялікім мястэчку каля 15-20 кілямэтраў ад горада Хемніца. У канцы чэрвеня штаб СБМ, моладзь менскага радыёзаводу й школа юначак з Драздоў сьпешна эвакуявалася цягніком.

Трэба заўважыць, што далёка ня ўсе немцы былі гітлераўскай біялягічна-ненармальнай натуры. Камісар Беларусі Кубэ даваў шырокую магчымасьць прапаведваць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэньня. Таму мы, юнакі, гледзячы на беларускіх палітыкаў старэйшага пакаленьня, павінны былі выкарыстаць гэты час. Няхай мы, моладзь, былі палітычна няграматнымі, але інтуітыўныя, чыстыя парывы нашых душ выявіліся ў арганізацыйную стыхію — СБМ аб'яднаў стотысячную юнацкую грамаду, працуючы ў самага парога кансалідацыі варожых яму сілаў, якія рыхтаваліся да наступу на Беларусь і далей на саму Нямеччыну.